## Бізнес-клас

Вядучая рубрыкі Вера ПАЛЯКОВА
Тэл. 68-28-52

### Беларусь – у лідэрах

У цікавы час мы жывём. Калі на вуліцах і ў грамадскім транспарце толькі і чуваць скаргі на хранічны недахоп грошай, калі спальны гарнітур айчыннай вытворчасці "Мара" лепш перайменаваць у "Мрою", а беларуская цыбуля даражэй за мараканскія апельсіны, наша рэспубліка абскакала Маскву па ўвозу патрыманых аўтамабіляў (у асноўным еўрапейскіх марак) у паўтара раза. Агульны аб'ём імпарту замежных новых і не вельмі аўто склаў каля 600 млн.даляраў.

Паводле падлікаў экспертаў Незалежнага інстытута сацыяльна-эканамічных і палітычных даследаванняў, першае месца сярод патрыманых "еўрапейцаў" на Беларусі займае "Опель". Потым, у адпаведнасці з папулярнасцю, ідуць "Фольксваген", "Форд", "Аўдзі", "Мерседэс" і "БМВ". І толькі зрэдку трапляюць на вочы вельмі прэстыжныя "Ягуары" і "Поршэ". Да таго ж, мы яшчэ і пераборлівыя: даволі танныя на сусветным рынку японскія аўтамабілі ў нас таксама не карыстаюцца поспехам і складаюць толькі 4,5 працэнта ад агульнага імпарту. Цалкам жа за 1992—93 гады ў Беларусь трапіла больш як 100 тысяч іншамарак, 88 працэнтаў з якіх увезена прыватнымі асобамі.

Большасць пакупнікоў гэтага тавару знайшлася, зразумела ж, у Мінску — 30 працэнтаў (у вобласці толькі 10 працэнтаў), на апошнім месцы — Віцебская вобласць — усяго 6 працэнтаў.

У гэтай галіне беларускай сталіцы належыць і яшчэ адзін рэкорд: Выканаўчы сакратарыят СНД — адна з самых забяспечаных "мотарэсурсамі" міжнародных арганізацый, бо мае замежных аўтамабіляў амаль столькі ж, як і супрацоўнікаў, праўда, без уліку абслугі.

І яшчэ адно менш прыкметнае дасягненне: сярэдняя зарплата ў Беларусі вагаецца недзе каля 20 даляраў. Дзіўна. Ці не так?

### Шукайце спачатку партнёраў у бізнесе, а потым – жанчын

З 7 па 10 чэрвеня ў Рэспубліканскім выставачным цэнтры пройдзе міжнародная спецыялізаваная выстава з даволі мудрагелістай назвай "Belaruscomputer. Belarusbank. Belarusorgadata", у якой прымуць удзел больш як 70 фірмаў з 15 краін.

Сярод іх — фірмы, да назваў якіх мы ўжо прызвычаіліся: IBM, ALCATEL, OLIVETTI, EPSON, PHILIPS, MINOLTA і іншыя. Не абыдзецца выстава і без мінскіх "Інтэграла" і ВА вылічальнай тэхнікі.

Праблемам развіцця на Беларусі ўсемагчымых сродкаў сувязі ад тэлекамунікацый да банкаўскіх сістэм будзе прысвечаны кангрэс, арганізаваны ў рамках выставы.

* * *

На працягу гэтых жа трох дзён, але ў памяшканні інстытута "Белпраект", будзе працаваць IV Міжнародная выстава сродкаў бяспекі "Мінск. Бяспека-94", на якую з'едуцца больш як 30 удзельнікаў не толькі з Беларусі, але з блізкага (Расія, Украіна) і далёкага (Польшча, Ізраіль, ЗША) замежжа.

### А ці было лепей?

Заўсёды людзі імкнуліся параўнаць сваё становішча з эканамічным узроўнем іншых краін. Нядаўна "Бізнес-клас" прапаноўваў сучасную градацыю заробкаў па розных прафесіях, а сёння цікавую рэтраспектыву дапаможа нам зрабіць беларуская газета "Наша ніва", якая яшчэ на пачатку стагоддзя (№ 6 ад 14.03.1908 г.) друкавала табліцу сярэдніх даходаў і падаткаў (усё ў рублях) у розных краінах на той час:

| | сярэдні даход | падатак з кожнай сотні |
|---|---|---|
| Аўстралія | 374 | 6,30 |
| Амерыка | 346 | 6,80 |
| Англія | 273 | 10,70 |
| Францыя | 233 | 15,00 |
| Германія | 184 | 12,80 |
| Аўстрыя | 127 | 14,90 |
| Іспанія | 120 | 13,40 |
| Італія | 104 | 24,50 |
| Партугалія | 101 | 16,80 |
| Балканскія княствы | 101 | 12,20 |
| Грэцыя | 93 | 18,30 |
| Расія | 63 | 19,60 |

Натуральна, Беларусь на той час жыла на ўзроўні Расіі. Дарэчы, раім звярнуць увагу на тое, што сярэдні даход наш тады быў у пяць разоў меншы за амерыканскі (346 руб.:63), а цяпер гэты разрыў павялічыўся да 100 разоў (2000 дал.:20 дал.).

Вітаўт МАРТЫНЕНКА.

ЭКАНОМІКА

# Як справы, рабочы клас?

□ Валянцін БАРЫСЕВІЧ, "ЧЗ"

*Новы час песціць новых герояў. А вызвалены ад сваёй занадта ідэалагізаванай місіі пралетарыят неўпрыкмет апынуўся на задворках жыцця, застаўшыся, аднак, тым, кім ён і быў да ўсялякіх перамен: яго вялікасцю вытворцам. Як жывецца яму, ужо спрытна скінутаму як з эканамічных, так і палітычных рахункаў? Аб чым думаецца? І чаго не прымае душа?*

*Адказы на гэтыя пытанні асабіста мне далі дзве сустрэчы, якія здарыліся на былым гіганце індустрыі, а сёння — церпячым бедства прадпрыемстве — Мінскім трактарным заводзе.*

## Сустрэча першая:

## Абрабаванне вытворцы працягваецца...

"У вёсцы, дзе жыве мая цешча, — апавядаў Віктар Баўкуновіч, начальнік фармовачнага ўчастка ліцейнага цэха № 2 Мінскага трактарнага завода, — пабудавалі прадуктовы магазін на другім, супрацьлеглым ад вёскі, беразе рачулкі. У веснавое разводдзе, восеньскую бездарож да яго можна дабрацца толькі пехатой, праз мосцік, а вось аўтамашыны з хлебам, прадуктамі вяртаюцца назад..."

Здавалася б, што агульнага паміж вёскай, цешчай і ліцейным цэхам МТЗ? Як выявілася, — праблема сувязей.

"Сувязь, — падкрэсліў Баўкуновіч, — гэта тое, ад чаго танцуюць у любой цывілізаванай краіне, толькі не ў нас, дзе працэс ідзе адваротна прапарцыянальны — трывалыя некалі ніткі, што звязвалі і асобныя прадпрыемствы і цэлыя народы — пашкуматаны. Дык аб якой, скажыце, калі ласка, стабільнасці ў вытворчасці можна весці гутарку, калі з такой нагоды працоўны тыдзень доўжыцца, у лепшым выпадку, тры-чатыры дні, а адміністрацыя і адпаведныя структуры ўвесь асноўны час прысвячаюць не вытворчай справе, а пошукам чыгуну, коксу, грошай для вядзення гаспадарчых спраў і разлікаў з Расіяй, Украінай?"

З пазіцыі цяперашняга моманту Віктара Баўкуновіча можна зразумець. Сапраўды, цяжка пераадолець нашы нягоды. Праблема, уяўляецца, вырашыцца толькі пры ўмове агульных намаганняў. Бо трактарабудаўнічая галіна — ключавая ў эканоміцы рэспублікі. А калі гэтак, то павінны ж тут прысутнічаць дзяржаўныя інтарэсы. А адпаведна — і інвестыцыйныя рэсурсы. Адным словам, урад не павінны заставацца ўбаку. Ён абавязаны ўзяць на сябе асноўныя функцыі па вывяду прадпрыемства з крызісу, мець доўгатэрміновую перспектыўную праграму развіцця буйных заводаў, фабрык, якія з'яўляюцца сферай нацыянальных прыярытэтаў, страта якіх недапушчальна на многіх, у тым ліку эканамічных выніках у цэлым для рэспублік.

Дык чаму ж там, "у вярхах", не лічацца з тым, што трактарны завод згортвае вытворчасць? Гэтае пытанне ўзнікае само па сабе, калі гутарка ідзе ў асяроддзі рабочых. Дзівяцца: як так?... Балазе, у любой цывілізаванай краіне гэткія складаныя галіны знаходзяцца пад строгім кантролем дзяржавы, якая нястомна сочыць за якасцю вырабляемай прадукцыі, забеспячэннем сыравінай і матэрыяламі, усяляк заахвочвае выраб сучаснай тэхнікі, набыццё найноўшых тэхналагічных ліній, па больш нізкіх цэнах — той жа сыравіны... Чаму ж у нас цэнава бязмежжа? Да якога часу яно будзе доўжыцца? На вялікі жаль, адказаць на гэтыя складаныя пытанні ў цяперашняй крытычнай сітуацыі цяжка. А заняпад прадпрыемства, між іншым, прадаўжаецца. "Калі яшчэ год назад мы выраблялі 90, — расказваў Баўкуновіч, — то сёлета наўрад ці сыдзе з канвеера і 70 тысяч трактароў".

Адным словам, не трэба быць астролагам, каб прадбачыць незайздросную будучыню прадпрыемства. Мяркуйце самі: як можна аптымістычна глядзець за гарызонт, калі тона чыгуну, які ідзе на адліўку задніх мастоў трактароў, муфты счаплення, каштуе сёння, колькі б вы думалі? Два мільёны "зайчыкаў"! А за суткі толькі ў ліцейным цэху № 2 разыходзіцца яго 350 тон. Але ж для вырабу асноўных камплектуючых неабходны не толькі метал. Патрэбны пясок, фенол для вырабу стрыжняў, кокс — для ліцейшчыкаў. А яны таксама каштуюць вялікіх грошай. Напрыклад, тона коксу — 800, фенолу — 530 тысяч "зайчыкаў". Дзе ўзяць гэткія сумы? Пакуль цэхі і ў цэлым завод жывуць за кошт экспарту трактароў у Пакістан, Амерыку, Кітай.

"А што тычыцца Расіі, — засмучаўся Віктар Фёдаравіч, — то яна закупляе іх у нас за бясцэнак, перапрадае за мяжу, маючы дадатковы навар. Няхай бы і сыравіну адпускалі нам за ўмоўныя сумы, а не па расцэнках вышэй за сусветныя..."

Карацей кажучы, крылаты выраз "час — грошы", здаецца, набывае канкрэтны змест. Але, ні ў якім разе, не на карысць беларускіх трактарабудаўнікоў, у якіх няма сыравіны, і якія пастаўлены перад фактам: выратаванне тапельца — праблема самога тапельца.

"Мы вельмі доўга ставілі нейкія эфемерныя задачы, — працягваў начальнік фармовачнага ўчастка Баўкуновіч. — Хоць трэба было ў самым пачатку "заварухі" ад слоў пераходзіць да канкрэтных спраў. Аднак, час быў змарнаваны. І вось цяпер нам і тым, хто вырабляе, напрыклад, МАЗы, БелАЗы, як дождж у спёку, патрэбна падтрымка на заканадаўчым узроўні. Бо фактычна ідзе абрабаванне вытворцаў. Растуць, як грыбы на дражджах, тарыфы на электраэнергію, сыравіну, камплектуючыя. А, між іншым, гэта плата ляжа ў сабекошт прадукцыі, што ідзе на продаж сельскаму працаўніку — хлебаробу, які корміць нас і поіць і, дарэчы, пастаўляе тавар больш танны, чым мы яму. У эканоміцы неабходна гібкая стратэгія. Ні да чаго добрага мы не прыйдзем, калі будзем зноў і зноў раскручваць спіраль гонкі цэн".

Ці абгрунтаваная трывога? На жаль, так. Клімат на айчынным рынку неспрыяльны. Для таго, каб выжыць, неабходна асвойваць новыя пазіцыі на сусветных рынках, навесці парадак з падаткамі і манапольнымі цэнамі. Аднак сістэма дзяржаўнага кіравання ў рэспубліцы, пазіцыя ўлад і фінансавая палітыка ўрада да гэтага дня не дазваляюць рэалізавацца магутнаму і ўжо па многіх пазіцыях разгубленаму навуковаму і эканамічнаму патэнцыялу гэткіх буйных прадпрыемстваў, як трактарны.

У гутарках з ліцейшчыкамі я час ад часу лавіў сябе на думцы аб тым, як часта яны, рабочыя, выказваюць крыўды на недахопы ў арганізацыі менавіта дакладнага забеспячэнскага працэсу. Зрэшты фінансавыя адносіны з большасцю пастаўшчыкоў цяпер гэткія: заплаці і атрымлівай. Іншая справа, што на некаторыя віды сыравіны цэны ў блізкім замежжы куды больш вышэйшыя, чым у далёкім, а вось гатовую машыну на тых жа ўмовах не збыць. Хаця менавіта ад калькасці прададзеных "беларусаў" сёння залежыць капітал прадпрыемства.

"Усё, што мы можам, — сказаў вопытны фармоўшчык Мікалай Аляксандравіч Зазуля, — гэта прыходзіць на працу дзесяць—пятнаццаць дзён у месяц, з надзеяй зарабіць хоць на хлеб".

Толькі гэта акалічнасць і ўтрымлівае яшчэ рабочых ля станкоў, канвеераў. Куды падзенешся, калі ўсюды развал?

Засталіся ў ліцейцы ў сваёй аснове старыя кадры. Моладзь працаваць на вытворчасці не імкнецца. Не бачыць стымулаў: кватэры не атрымаеш, разлічвай на кааператыўнае жыллё. Зарплата не вельмі вялікая. Гэтыя акалічнасці паступова нішчаць стымулы да добрасумленнай працы, дэкласуюць сумленне працаўнікоў, якія ўсё часцей успрымаюць зарплату як своеасаблівую даніну за адбыванне на рабочым месцы "рабочага" часу.

За кардынальныя змены, за карэнную перабудову жыцця прадпрыемства і выступаюць начальнік фармовачнага ўчастка Віктар Баўкуновіч, фармоўшчыкі Мікалай Зазуля, Аляксандр Паляк, Рыгор Скакун, брыгадзіры Яўген Мазанік, Васіль Казлоўскі. І, зразумела, не толькі яны...

"Нам дзеля таго, каб дасягнуць згубленага ўзроўню прадукцыйнасці працы семідзесятых-васьмідзесятых гадоў, — працягваў Віктар Баўкуновіч, — спатрэбіцца, магчыма, ад дзесяці да пятнаццаці гадоў. І гэта ў самым лепшым выпадку, пры задавальняючым рашэнні складаных матэрыяльна-фінансавых праблем, забеспячэнні інвестыцыйнымі рэсурсамі".

Нічога дзіўнага. Эканамічныя ніткі парваны, і аднавіць іх за кароткі тэрмін вельмі і вельмі складана. У выніку, цэнавая свістапляска на сабекошце прадукцыі, рэзка ўзросшыя цэны на сыравіну, электраэнергію, чыгуначныя перавозкі, разгульваючая інфляцыя — усё гэтаператварае прамысловыя гіганты ў стратныя прадпрыемствы.

"Іншы раз можна пачуць ад скептыка: у трактарабудаўнікоў, маўляў, гэткі магутны патэнцыял — нямала інжынерна-тэхнічных работнікаў, — крыўдаваў Баўкуновіч, — чаму ж не цалкам выкарыстоўваюцца рэзервы і магчымасці для паскарэння сацыяльна-эканамічнага развіцця калектыву, шырокага ўкаранення ў практыку дасягненняў навукова-тэхнічнага прагрэсу, паляпшэння якасці прадукцыі?"

Сапраўды, чаму? Ды таму, што заводская казна пустая. Усё ўпіраецца ў адно.

Начальнік участка фармоўкі паведаміў мне, што першая лінія ліцейнага цэха была запушчана ў 1964 годзе, і з таго часу абсталяванне не ўдасканальвалася, цэх не рэканструяваўся. На трэцім канвееры, у прыватнасці, працуе фармовачны паўаўтамат 1961 года выпуску. Гэта пазаўчарашні дзень тэхнікі. Дык аб якой рыначнай кан'юнктуры можна весці гутарку ў недалёкай будучыні, аб якім асваенні новай тэхнікі марыць, калі не будуць прыняты экстранныя меры.

На сённяшні дзень тут, у ліцейным цэху № 2, самыя састарэлыя фізічна і маральна станкі. Гар, пыл. А, між тым, на ўчастках працуе каля сарака працэнтаў жанчын. Не па сабе становіцца, калі назіраеш, у якіх умовах даводзіцца ім працаваць.

Праўда, наважваліся ў ліцейцы па дамоўленасці з немцамі абсталяваць новыя фармовачныя лініі, замяніць вагранкі, каб ачысціць паветра не толькі ў цэхах, але і скараціць выкіды пылу, газаў у навакольнае асяроддзе. Аднак, добрыя намеры засталіся на паперы. Не адшукалася ў казне адзінаццаці мільёнаў марак.

...Уяўляецца: глядзіць далёкая вёска Буда з акенцаў хат і бачыць вузкі мосцік цераз рачулку да магазіна. Нізкае, поўнае навальнічных хмар неба над зямлёй. Пахмурна і за закуранымі вокнамі ліцейнага цэха. Што чакае людзей там, за гарызонтам?!

***(Працяг у наступным нумары).***



## Дарогамі браслаўскіх касінераў

Браслаўшчына ў 1794 годзе стала месцам актыўных дзеянняў паўстанцкіх атрадаў. Менавіта тут у маі-чэрвені адбыліся сутычкі паўстанцаў-касінераў з карнікамі пад Відзамі і Браславам, ля Замошша і Абаб'я... Кіравалі атрадамі генерал Аскерка, браслаўскі суддзя Казімір Беліковіч, браслаўчанін Багуслаў Мірскі.

Але найбольш прыкметнай фігурай сярод кіраўнікоў паўстання быў вядомы дзяржаўны і грамадскі дзеяч Рэчы Паспалітай Томаш Ваўжэцкі. Ураджэнец Браслаўшчыны, ён выбіраўся дэпутатам сейма і ўнёс значны ўклад у падрыхтоўку прагрэсіўнай Канстытуцыі 1791 года.

У час паўстання 1794 года Т.Ваўжэцкі на свае сродкі экіпіраваў атрад паўстанцаў колькасцю ў 300 чалавек і быў уведзены ў састаў Найвышэйшага нацыянальнага савета паўстання. Лёс усклаў на Томаша Ваўжэцкага цяжкі груз кіраўніцтва паўстанцкім рухам пасля палону Тадэвуша Касцюшкі. У выніку паражэння паўстання ён быў зaключаны ў Петрапаўлаўскую крэпасць, дзе прабыў два гады. Вызвалены па амністыі Т.Ваўжэцкі вярнуўся на Браслаўшчыну ў сваю сядзібу ў Відзах-Лаўчынскіх. Памёр ён у 1816 годзе і пахаваны ў Відзах.

Гісторыя захавала звесткі яшчэ пра аднаго актыўнага ўдзельніка паўстання вядомага кампазітара і дзяржаўнага дзеяча Міхала Клеафаса Агінскага. Узначальваючы асобы атрад, ён зрабіў некалькі рэйдаў з мэтай падтрымкі і аб'яднання разрозненых груп паўстанцаў. Вядома, што адзін з рэйдаў прайшоў праз тэрыторыю Браслаўскага павета.

Яўген КАЗЮЛЯ,
БЕЛІНФАРМ.

НА ЗДЫМКАХ:
• Так выглядае сёння сядзіба Т.ВАЎЖЭЦКАГА ў Відзах-Лаўчынскіх.
• "Рэйд М.К.АГІНСКАГА па Браслаўшчыне" — карціна браслаўскага мастака Івана РЫДЗІКІ.

Фота аўтара.

## ЗАЯВА

### дэпутатаў апазіцыі БНФ у Вярхоўным Савеце Беларусі

Апазіцыя БНФ неаднаразова звяртала ўвагу грамадскасці Беларусі і міжнароднай супольнасці на становішча ў сродках масавай інфармацыі, якое адметна поўным ігнараваннем законаў і прынцыпаў свабоды слова з боку ўрада.

У апошні час сталі вядомыя новыя факты наступу на прэсу. Міністр культуры і друку, парушаючы Закон, уласным загадам спыніў выданне газеты "Навіны БНФ". Забаронена газета "Выбар" (Віцебск). Выдавецтва "Беларускі Дом друку" адмовілася друкаваць газету "Свабода". 28 мая забаронены дэмакратычныя радыёстанцыі "Беларуская маладзёжная" і "Крыніца". Заблакавана інфармацыя незалежнага агенцтва "БелаПАН" і ўвогуле ўся інфармацыя, якая датычыць дзейнасці дэмакратычных сілаў і не ўспрымаецца ўрадавай групоўкай кіруючай наменклатуры. Знішчаюцца рэшткі дэмакратычнага друку. Умацоўваецца таталітарны рэжым.

Рэгулярныя звароты дэпутатаў апазіцыі БНФ да кіраўніцтва Дзяржтэлерадыё з просьбай прадаставіць эфірны час ігнаруюцца, хоць такая магчымасць дэпутатам гарантаваная Законам.

Наступ на дэмакратычных журналістаў і незалежную прэсу невыпадковы — Савет Міністраў і паслухмяны яму Вярхоўны Савет зацікаўленыя, каб выбары Прэзідэнта адбываліся ў становішчы інфармацыйнага падману грамадства.

Як нам стала вядома, кіраўніцтва Дзяржтэлерадыё плануе прадаставіць эфір для выступленняў дэмакратычных кандыдатаў у Прэзідэнты ў нязручны час. Між тым, ужо цяпер усе інфармацыйныя праграмы тэлебачання і радыё, усе ўрадавыя газеты запоўненыя прапагандысцкай інфармацыяй пра Старшыню Савета Міністраў Вячаслава Кебіча. Гэта ёсць парушэнне закону, прынцыпу роўных магчымасцяў для ўсіх кандыдатаў і выкарыстанне В.Кебічам у перадвыбарчай барацьбе свайго службовага становішча.

Усё гэта прымушае нас зрабіць адпаведны зварот да беларускай грамадскасці і міжнароднай супольнасці, звярнуць увагу на расправу з дэмакратычнай прэсай і іншымі сродкамі масавай інфармацыі, на небяспечны рост таталітарызму на Беларусі.

Мы патрабуем неадкладнага аднаўлення магчымасці выдання газетаў "Выбар", "Навіны БНФ" і "Свабода", а таксама выхаду ў эфір радыёстанцыяў "Беларуская маладзёжная" і "Крыніца".

У адпаведнасці з Законам аб статусе народнага дэпутата Рэспублікі Беларусь, мы патрабуем прадастаўлення дэпутатам апазіцыі БНФ прамога эфіру па нацыянальным тэлеканале.

Таталітарызм павінен быць спынены.

З.ПАЗЬНЯК, С.НАВУМЧЫК, Ю.БЕЛЕНЬКІ, В.ГОЛУБЕЎ, В.АЛАМПІЕЎ, В.МАЛАШКА, Б.ГЮНТЭР, Л.ДЗЕЙКА, А.САСНОЎ, А.ТРУСАЎ, У.НОВІК.

ПАШТОВАЯ СКРЫНКА

### І другое жыццё пражыла б гэтаксама

Здаецца, што даўно ведаю гэтую жанчыну — загадчыцу сектара перыёдыкі кнігасховішча беларускай літаратуры нацыянальнай бібліятэкі Ганну Тадэвушаўну Касцяневіч.

Нарадзілася яна ў адной з вёсак Віцебскай вобласці. Бацька — камуніст, але, калі руйнавалі цэрквы, ён адкрыта выступіў супраць гэтага варварства. Толькі дзякуючы пастанове Сталіна "Аб непарушнасці духоўных каштоўнасцей" пазбег пакарання. Ганна пасля заканчэння школы працавала два гады ў вясковай бібліятэцы, а потым, закончыўшы Магілёўскі бібліятэчны тэхнікум, трапіла ў Мінск.

Аднаго разу прыйшла яна ў сабор Пятра і Паўла і сказала, што хоча дапамагаць людзям. Спачатку хворым падносіла мыла, а потым у саборы адкрылася бібліятэка, — і Ганна стала загадчыцай. Зараз Ганна Тадэвушаўна — член таварыства міласэрнасці, дапамагае хлопчыку-сіраце і многім "цяжкім" сем'ям. Вось урывак з яе аповеду: "Неяк прыйшла ў сабор гуманітарная дапамога, павезла яе адной сям'і. Там сем дзяцей, малодшай дзяўчынцы год. Маці п'е. У кватэры, нібы пасля пагрому, — усюды бруд, шафы без ручак, няма ніводнай разеткі, дзеці ў рванай вопратцы, з раніцы не елі. Я хутка прыбрала, пакарміла малых. Урэшце прыйшла гаспадыня, пад чаркай. Аказалася, муж без просыпу піў і яе спаіў, але жанчына хоча выбрацца з гэтай дрыгвы. Я пагаварыла з ёй, і наступным разам яна мяне ўжо чакала, кватэру прыбрала".

У Ганны Тадэвушаўны дзве дачкі. Яны разумеюць сваю матулю і дапамагаюць ёй. Старэйшая, Вольга, будзе паступаць на багаслоўскі факультэт гуманітарнага універсітэта.

Калектыў вельмі цёпла адзываецца аб сваім кіраўніку: "Ніколі голасу не павышае, вельмі аб'ектыўная і праўдзівая".

Цяжка Ганне Тадэвушаўне: сям'я, работа і справа, якая стала сэнсам яе жыцця. Не хоча яна, каб за міласэрнасць плацілі ёй грошы. І калі б ёй была дадзена другое жыццё, пражыла б яго гэтаксама.

Святлана ЧАРНАЯ.

### Баязлівы "зайка" шэранькі...

Якія толькі мянушкі не атрымліваў наш родны разліковы білет Нацыянальнага банка Беларусі, больш вядомы ў рэспубліцы пад псеўданімам "заяц", за час свайго нядаўняга двухгадовага існавання. Дарэчы, цікава было б ведаць, чаму менавіта "заяц", а не "вавёрка" або "воўк" ці яшчэ якая-небудзь жывёліна з таго звярынца, прадстаўнікамі якога ўпрыгожаны грашовыя купюры Нацбанка Беларусі вартасцю ад пяці да тысячы рублёў? За два гады гэта назва настолькі замацавалася, што папулярнае ў мінулым "драўляны" проста страчвае свой сэнс у галерэі вытворных, узяўшых свой пачатак ад зыходнага слова: "шэры", "касы", "даўгавухі" і інш. Хаця, часам можна пачуць, як беларускія грошы ласкава называюць "мядзведзем", "зубрам", у залежнасці ад намаляванай на іх істоты. Але гэта не ад таго, што мы вельмі любім прыроду і ахоўваем яе жыхароў. Проста мы яшчэ больш падкрэсліваем несур'ёзнасць гэтага намеру, калі нацыянальную валюту вырашана было размаляваць ляснымі насельнікамі. Гэта што, намёк на нашу недалёкую з імі роднасць ці проста "пры ўсім багацці выбару іншай альтэрнатывы няма"? Уявіце сабе, напрыклад, што з даляра, які карыстаецца такой папулярнасцю ва ўсім свеце, на нас глядзяць не Гамільтан з Вашынгтонам, а ікласты лясны дзік ці які-небудзь паласаты барсук.

Нас жа, калі было вырашана, што ўсе браты нашы меншыя, якіх толькі можна надрукаваць, ужо надрукаваныя рэзка пацягнула на архітэктурныя ансамблі. Плошча Перамогі, Акадэмія навук... Чаго чакаць наступным? Камароўскі рынак? Стадыён "Дынама"? Ці можа лепш будзе пункт абмену валюты банка "Комплекс"?

А колькі ж нашага беднага "зайчыка" хвалі, колькі прадказвалі, што хутка навострыць ён свае доўгія вушы ў суседнюю Расію і памчыць у пошуках лепшага існавання. А ён усё жыве і час ад часу "радуе" нас сваімі, не па-заечы шалёнымі скокамі на валютнай біржы. Хаця гавораць, што недзе ў засеках Мінфіна чакаюць свайго часу новыя беларускія грошы, якім з-за гэтых загадкавых захадаў аб аб'яднанні грашовых сістэм Расіі і Беларусі так і не ўдалося пабачыць свет. Так што яшчэ не вядома, колькі засталося нашаму "зайчыку" скубці зялёную траўку на гэтым вялікім, але не надта сакавітым лузе пад назвай "рыначная эканоміка ў беларускім варыянце", калі з усіх бакоў яго, беднага, можна ў любы момант вельмі лёгка "падстрэліць". Але будзем спадзявацца, што гэтага не здарыцца, і наш "даўгавухі" захавае самастойнасць і будзе вырашаць свой лёс, падпарадкоўваючыся ўласнай зацікаўленасці, а не загадам магутных суседзяў.

Рыгор МІЦЮШНІКАЎ.

### Небагатыя дапамагаюць бедным

У Крычаве ўпершыню прайшоў дабрачынны марафон "Нашы сэрцы — дзецям". Ініцыятары яго правядзення — раённы камітэт Таварыства Чырвонага Крыжа, а канкрэтна яго старшыня Людміла Акімаўна Баравікова, а таксама гарадскі аддзел народнай адукацыі. Шмат зрабіла для таго, каб такі марафон адбыўся, дырэктар гарадскога дзіцячага цэнтра творчасці Ніна Дзмітрыеўна Василенка.

А дапамагаць ёсць каму. У Крычаве 35 дзяцей-сірот, 38 інвалідаў з дзяцінства. А колькі мнагадзетных сем'яў! Прычым, пенсія з прычыны страты карміцеля ўсяго 30 працэнтаў ад заробку, які атрымліваў бацька ці маці. Дзеці-інваліды з дзяцінства атрымліваюць усяго 78 тысяч рублёў пенсіі (гэта ўжо ў красавіку). Няцяжка ўявіць сабе, у якіх умовах даводзіцца жыць сёння гэтым дзецям, якія літаральна пазбаўлены дзяцінства. Ды і бездапаможныя яны, не ў стане самі паклапаціцца пра сябе, а маюць права разлічваць на дапамогу грамадства.

Прынамсі, як расказала загадчыца гарана Валянціна Віктараўна Добрусева, у школах горада сабраны два мільёны рублёў. Гарвыканкам пералічыў у фонд марафона 500 тысяч рублёў. Між іншым, больш за чатыры мільёны пералічылі ў фонд марафона розныя прадпрыемствы і арганізацыі горада. А вось камерцыйныя структуры сваёй міласэрнасцю не вызначыліся. 50 тысяч ахвяраваў адзін з прадпрымальнікаў, які пажадаў застацца невядомым, ды яшчэ 30 тысяч невялічкі кааператыў "Рамонтнік-1".

А вось гарадскі аўтобусны парк вырашыў даць па мільёну сваім работнікам, у сем'ях якіх выхоўваюцца дзеці — інваліды з дзяцінства.

Увогуле за час правядзення марафона ўдалося сабраць 8337855 рублёў. Ахвяраванні яшчэ будуць паступаць. Гэтыя сродкі ўлічваліся спецыяльнай размеркавальнай камісіяй і будуць перададзены тым дзецям, якія найбольш маюць у гэтым патрэбу. Аб тым, каму будзе аказана дапамога, арганізатары марафона паабяцалі паведаміць праз раённую газету.

Закончыць хочацца словамі аднаго з арганізатараў марафона намесніка галоўнага ўрача Наталлі Ягораўны Капсэт, якая сказала, што ў гэты дзень нават малышы аддавалі тыя рублі, што дала ім маці на цукеркі. Значыць, жывая міласэрнасць у душах людзей. А людзям, якія трапілі ў бяду, патрэбна таксама сардэчная цеплыня.

Уладзімір ДАЛЕЦКІ.

ЗВАНОК З УРОКА

# Самае доўгае лета

— О, глядзіце, гэта ж нашы карытцы стаяць! — хлопцы зайшлі ў гаспадарчы магазін, нечакана ўбачылі сваіх рук работу і ўзрадаваліся, як радуешся на чужыне добра знаёмаму ці земляку.

— Якія яшчэ карытцы? — не зразумеў я.

— Ну, гэта ж мы самі ў школе рабілі, на ўроку працы.

— І навошта яны?

— Як навошта? Свіней карміць.

— Такія маленькія?

— Для маленькіх парасятак.

У Докшыцах, не глядзі, што гарадскія дзеці, сельскую гаспадарку, як рэпу, грызуць. Тут у кожнага, бадай, свой агародзік. Без яго ў маленькім, зусім не прамысловым райцэнтры лёгка адкінеш капыты.

Хлопцы ўзялі па кілаграму ...вяроўкі. Вяроўка танная і тоўстая, на кілаграм многа лезе, атрымаліся кулі — ледзь абхапіць.

— Навошта вам, — цікаўлюся, — вяроўка?

— Вешацца, — смяюцца.

— Так многа?

— Дык на ўвесь жа клас.

З хлопцамі ідзём да павароткі. Затым яны кіруюць да школы, а я спускаюся ўніз. Там — возера. Штучнае, але нічога, можна і пакупацца, і рыбу палавіць. Гэта перагарадзілі ды пачысцілі рэчку Бярэзіну. А вось і рыбак. Рыбы, праўда, не відно, адна вудачка.

— Ловіцца? — пытаюся.

— Часам... — не адрываючы погляду ад лескі, бо ловіць ён на леску, без паплаўка, неахвотна бурчыць рыбак.

Раптам у мяне за спінаю нешта падазрона захлопала. Паварочваюся — певень. Погляд у яго ваяўнічы і яўна агрэсіўны, нічога добрага не абяцае. Яшчэ хвіліна — і певень бы пераможца ўссядаў у мяне на галаве. Гэтага толькі не хапала. Зусім як той Пархвен Катлубовіч, што з п'яным пеўнем біўся. Лепшая абарона — наступленне. Раблю выгляд, што ў руцэ ў мяне здаравенная дубіна і рашуча наступаю на агрэсара. Падзейнічала. Певень недаверліва адступае, і хоць яшчэ трымаецца ваяўнічага выгляду, але ўжо скоса пазірае на падваротню, шукае хады для адступлення, тым болей, што ў руцэ ў мяне і сапраўды паяўляецца дубец. Нарэшце, певень з пачуццём уласнай годнасці хаваецца ў двары, а я, крыху збянтэжаны, так з дубцом і кірую да першай докшыцкай школы.

А ў школе дубец не патрэбен, бо тут дэмакратыя. Намеснік дырэктара па выхаваўчай рабоце Вольга Генадзьеўна Махонь, пачуўшы, што я цікаўлюся пытаннямі летняга адпачынку школьнікаў, ніколькі не збянтэжылася, цярпліва пачынае распавядаць.

Відаць, настаўнікі прывыклі ўжо, змірыліся, што доўгае, нуднае і спякотнае лета кожны год цяжкім грузам кладзецца на кволыя плечы школы. Хочаш не хочаш, а вязі. Хто цягне, таго і куюць. Школа не мае іншага клопату ўлетку, як толькі пасвіць да восені дзяцей. Адпрацаваўшы навучальны год ад званка да званка, яна фактычна не ведае спачыну і ўлетку. А лета з кожным годам становіцца ўсё даўжэйшым і даўжэйшым. І сёлета, мабыць, будзе самае доўгае. Бо пуцёўка ў летнік, нават у свой, "Бярозка", што ля Докшыц, каштуе больш за мільён рублёў. Бо прадпрыемствам фактычна болей не патрэбны падлеткі, усюды і так скарачэнне штатаў, а таму летам уладкавацца на працу ў Докшыцах (ды ці ў адных Докшыцах) практычна немагчыма. Бо нават з'ездзіць куды на экскурсію — справа нялёгкая. Зноў жа — бензін, аўтобус, харчаванне, якое зараз разлічана, мабыць, на мільянераў. І ўсё ж вырываюцца. Часам ездзяць, а часцей ходзяць у паходы. Навошта хадзіць далёка. Ёсць за васемнаццаць кіламетраў ад Докшыц свая школьная экалагічная сцяжынка. Там у любую пару года хораша. Вось толькі дзятлы, якія гняздзіліся, паўцякалі. Хадзілі машыны — птушкі жылі, а прыйшлі людзі, і няўтульна зрабілася лясным дактарам. Вольга Генадзьеўна сама біёлаг, мабыць, таму так востра перажывае трагедыю дзятлаў.

Ну, і што яшчэ? Дапусцім, чалавек сто ўладкуюць у летнікі бацькі. Пяцьдзесят-шэсцьдзесят прыме дзіцячая аздараўленчая пляцоўка, якая будзе працаваць у школе для вучняў першых-чацвёртых класаў. Нехта са старэйшых праўдамі-няпраўдамі ўладкуецца на працу, хаця б у вёсцы — памочнікамі камбайнераў. Астатнім жа застаецца купацца ў тым штучным возеры, дарэчы, вельмі каварным і прагным, бо не адно жыццё чалавечае загубіла. І ваяваць з агрэсіўным інкубатарскім пеўнем, які, відаць, лічыць сябе адзіным гаспадаром і вуліцы, і возера, і спякотнага лета. Наўрад ці ўбачаць докшыцкія падлеткі нешта цікавейшае за пыльныя вуліцы, за ўласныя агародзікі, якім заўсёды патрэбны клапатлівыя рукі. Праўда, ёсць яшчэ плантацыя школьных буракоў, вялікія кветнікі, якія таксама не адмовяцца ад памочнікаў. Ёсць абавязковая школьная вытворчая практыка, да якой даўно ўсе прывыклі, як прывыкаеш да ўзыходу сонца ці нуднага асенняга дажджу. Нешта не сустракаў чалавека, які б ішоў на буракавае поле, як на свята. Ці то паняцце "на працу, як на свята" і сапраўды безнадзейна састарэла, стала утопіяй, як і многае з таго, што мы так гучна і ўпэўнена ўслаўлялі ў свой час. Ці то засталіся незадзейнічанымі нейкія механізмы і рычагі, якія ператварылі б нават працу на прышкольным участку ў занятак любімы і, галоўнае, карысны. А можа, у вузкіх рамках школы камерцыя ці прадпрымальніцтва ўвогуле немагчымы? Можа непрыстасаваная да суровых умоў канкурэнцыі школа рызыкуе проста захлынуцца ў вялікім бізнесе? Бізнес — справа не зусім далікатная і на адных маральных прынцыпах тут далёка не заедзеш. Ва ўсякім разе, дырэктар першай докшыцкай школы Уладзімір Пятровіч Арціменак таксама не падзяляе празмернага аптымізму ў гэтых пытаннях. Ён распавёў мне, як школа надумала адкрыць сваё прадпрыемства, як наладжвае сувязі з Аршанскім ільнокамбінатам. Але ці атрымаецца што з гэтага, сказаць цяжка. Бо нават калі ўвесну заробіш і пакладзеш у банк грошы, да восені іх з'есць інфляцыя. Дарэчы, у гаспадарчым магазіне я пацікавіўся і тымі самымі карытцамі, зробленымі на ўроках працы, якія прадаюцца зараз па тры з паловай тысячы. Іх пакуль ніхто асабліва не купляе. Пра які тут можна казаць бізнес? Застаецца хіба збіраць лекавыя расліны. У Докшыцах, адносна экалагічна чыстым гарадку, гэтая справа пастаўлена добра, але зноў жа яна не прыбытковая. Дзеці стараюцца цэлае лета, а атрымліваюць фактычна капейкі. Няма матэрыяльнага стымулу — няма і ахвоты ў падлетка таўчы ваду ў ступе. Куды лягчэй дый выгадней гандляваць вунь на рынку "Снікерсамі".

Адны гэта зразумелі першымі і, адкінуўшы сентыментальныя прынцыпы, пусціліся ў рыначную стыхію. Другія працягваюць збіраць травы, займаюцца міласэрнасцю — ёсць у школе нават свой цэнтр міласэрнасці — і фактычна не маюць мажлівасці нават з'ездзіць у летнік. Адны жывуць за прынцыпы, другія — за грошы. Жыццё жорстка і бязлітасна падзяліла нас на дзве, бадай, ужо антаганістычныя групы. Можна рабіць выгляд, што гэтага не заўважаеш, але нельга жыцця адмяніць. І антаганізм расце. Хто будзе пераможцам — пакажа час. Баюся, што пераможцаў увогуле не будзе.

А пакуль — наперадзе лета. Лета без вялікага аптымізму і з нейкай неасэнсаванай трывогаю, мабыць, таму абяцае яно быць самым доўгім.

Уладзімір МІХНО.

